Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Востраброамская 9.

Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. | Вільня, 18 сакавіка 1932 г. | № 10 (35)

## Популярна-навуковыя лекцыі

ладжаныя Лекцыйнай Камісіяй Беларуск. Навук. Таварыства.

Праграма на месяц САКАВІК:

У нядзелю, 20 сакавіка — лекцыя М. ЧАРНЭЦКАГА на тэму: „Костусь Каліноускі“.

Лекцыя чытаецца ў салі Віленскае Беларускае Гімназіі (ВОСТРАБРАМСКАЯ 9).

Пачатак у 4 гадз. вечара —) (— Уваход вольны і бясплатны.

## Ад Адміністрацыі „Бел. Звону“.

Гэтым паведамляем нашых падпішчыкаў, што яны могуць перасылаць належныя нам грошы за газэту гэтакім спосабам: 1) купіць на пошце блянк для перакazу на рахунак П. К. О., які каштуе толькі 5 гр., 2) запоўніць яго, як належа, упісаўшы адрас беларускае кнігарні Ул. Манкевіча (Księgarnia Białoruska Wł. Mankiewicza, Wilno, Ostrobramska 1) і нумар конта 61991, 3) на адвароце часткі бляку „dla adresata“ напісаць: „За газэту“— і 4) бясплатна здаць разам з бляккам пасыланую суму на пошце.

# Наша зброя.

Будучыня—гэта моладзь. Якой яна будзе ўзгадавана старэйшым пакаленьнем, такім будзе грамадзянства ў будучыні.

Гэта—справа зусім ясная, бясспрэчная. І памыляюцца вельмі тыя, хто думае, быццам засеянае ў маладыя гады ў душы падрастаючага пакаленьня зярняты могуць так лёгка заглохнуць, ня даць плёну. Ведама, кожнае пакаленьне ўносіць у жыцьцё грамадзянства і нешта сваё, новае: інакш не магло-б быць ніякага поступу. Але гэнае *новае*—вельмі нязначнае, раўнуючы з тэй *старой спадчынай*, каторую моладзь атрымлівае ад папярэдняга пакаленьня.

Нас, беларусаў, вельмі цікавіць пытаньне ня толькі аб нашай уласнай моладзі, але і аб моладзі *польскай*. Гэта-ж—тое грамадзянства, якое ў недалёкай будучыні возьме ў свае рукі кіраўніцтва ўсім жыцьцём Польскае Рэспублікі, з якой доля зьвязала й нас. Гэта — тое грамадзянства будучыні, ад ідэйнага становішча каторага будзе ў значнай меры залежаць і наш лёс. — Дык ня можам заплюшчаваць вачэй на тое, што сяньня дзеецца сярод польскае моладзі, на тое, чым яна корміцца ў сваім духовым—ідэйным жыцьці.

Толькі-што адбытыя выбары ўраду студэнцкае арганізацыі ў Віленскім Унівэрсытэце п. н. „Братняя Помач“ даюць багаты матэрыял дзеля пазнаньня настрояў і ідэйных імкненьняў польскае моладзі. І трэба сказаць, што для нас гэтыя настроі ня суляць у будучыні ніякое зьмены на лепшае.

На выбарах перамагла *нацыяналістычная—эндэцкая моладзь.* Тая моладзь, каторая йдзе пад павадырствам найбольш ярых беларусаедаў — з Дмоўскім на чале. Тая моладзь, якая корміцца „духовай“ і „ідэйнай“ стравай, дараванай на страніцах газэты „Dziennik Wileński“, рэдагаванай „ведамым“ Іоганам Обстам...

А з гэтага—вывад: дух нацыяналізму, якім прасякнута было ўсё польскае грамадзянства ў пераломным мамэньце гісторыі польскага народу — мамэньце здабываньня незалежнага дзяржаўнага быту, ня толькі ня выветрыўся з станьнем нармальных варункаў вольнага будаўніцтва адроджанае дзяржавы, але—стаўся сталай, нязьменнай рысай і новага пакаленьня, каторае йдзе на зьмену старога. І паляпшэньня адносінаў да беларусаў і іншых „інародцаў“ (панова-му: „меншасьцяў“) спадзявацца і ў будучыні—нельга.

І згэтуль — навука для нас: *чым чарней выглядае будучыня, тым мацнейшымі мусім быць мы самі,* каб не загінуць, ня быць сьцертымі з аблічча зямлі. Дык—цясьней сьціскайце вашы рады, беларусы, і супольным, дружным высілкам куйце зброю дзеля нацыянальнае самаабароны!

А зброя ў нас—толькі адна: *нацыянальнае ўсьведамленьне шырокіх масаў і тварэньне нацыяльных культурных цэннасьцяў,* якіх ніхто і нішто зьнішчыць ня здолее.

У гэтым—наша надзея на перамогу

# Вайна Японіі з Кітаем.

### Ваенная акцыя ў Кітаі ня спынілася.

Ня гледзячы на націск з боку Лігі дый прыняцьце яе рэзолюцыі Японіяй і Кітаем, ваенная дзеяльнасьць з абодвух бакоў на шанхайскім фроньце ня спынілася. Як Кітай, так сама і Японія падвозяць на фронт новыя войскі. Такім чынам робіцца—„ў часьць Лігі нацыяў“ — толькі нейкая перадышка, якая выкарыстоўваецца абедзьмюма старанамі—для ўзмацненьня іх сілаў. Японія мабілізуе 6 новых дывізіяў, а Кітайцы падрыхтавалі новую стотысячную армію.

Ясна, што павінна наступіць завастрэньне ваеннай акцыі—аж да нейкага рашучага рэзультату...

Што гэта так, гэта сьцьвярджаюць і тыя вялізарныя транспорты ўсялякай амуніцыі, якія ўсьцяж ідуць з Эўропы і Амэрыкі пад Шанхай—для абедзьвюх ваюючых арміяў — навет ужо пасьля прыняцьця Лігай Нацыяў яе рэзалюцыі. Француская прэса падлічае, колькі гэтых транспортаў выходзіць з нямецкіх, англійскіх і італьянскіх партоў, маўчыць толькі аб францускіх... Асабліва чынным быццам зьяўляецца гамбурскі порт, праз які аднак-жа йдуць транспоры ня толькі нямецкія, але і чэха-славацкія. Вялікія дзяржавы падвойна заінтэрэсаваны ў тым, каб вайна цягнулася чым больш. Яны-ж, як канкурэнты Японіі, жадаюць яе вычарпаньня і аслабленьня, а як гандляры—багацеюць ад продажы ўсялякай амуніцыі абедзьвюм ваюючым дзяржавам.

### Новы японскі ультыматум.

Галоўны камандзір японскай арміі пад Шанхаем выслаў Кітаю новы ультыматум, які трэбуе, каб кітайскія войскі адыйшлі ад Шанхаю ўжо аж на 65 кілёмэтраў. У разе неспаўненьня гэтага загаду—японцы маюць распачаць новае наступленьне.

### Чанг-Кай-Шэк — ваенны дыктатар Кітаю.

Паводле чутак, ведамы пераможца ў вайне за Шанхай 1927 г. Чанг-Кай-Шэк назначаны ваенным дыктатарам усяго Кітаю і галоўным камандзірам усіх абаронных сілаў у вайне з Японіяй. Гэтае назначэньне—новы доказ поўнага паразуменьня і аб'яднаньня абодвух кітайскіх урадаў: нанкінскага і кантонскага („чырванейшага“). Як відаць, Кітайскі народ мае цьвёрдую волю бараніць свае правы і сваю волю даканца. Дык канца вайны пакуль-што яшчэ ня відаць.

### „Карацельная выправа ў Манчжурыю“.

Кітайскі ўрад афіцыяльна заявіў, што не прызнае ніякай „незалежнай Манчжурыі“ дый што ў красавіку распачне паход на Манчжурыю, каб пакараць тых здраднікаў, каторыя паддаліся Японіі дый адарвалі край ад Кітаю.

Японскі прэм'ер на гэта адказаў, што гэтая заява кітайскага ўраду можа выклікаць новыя комплікацыі, бо-ж Японія ніколі не дапусьціць да новага выбуху хатняй вайны ў Манчжурыі.

### СССР ня прызнае „незалежнай“ Манчжурыі.

Урад СССР пастанавіў ня прызнаць невастворанай Японіяй „Манчжурскай Рэспублікі“...

### Мілюкоў аб учасьці расейскіх эмігрантаў у вайне на старане Японіі.

Ведамы правадыр радыкальна дэмакратычнага крыла расейскай эміграцыі, былы міністар замежных спраў рэвалюцыйна-дэмакратычнай Расеі, Мілюкоў зрабіў публічны даклад у Парыжу, на якім разважаў, якое становішча павінна заняць расейская эміграцыя ў магчымай вайне Японіі з бальшавіцкай Расеяй. Даклад выклікаў сэнсацыю і абу-

рэньне ў большай — абсолютна непрымірымай—частцы эміграцыі. Мілюкоў з нябывалай яшчэ у эміграцыі сьмеласьцяй заявіў, што ў такой вайне, дзе бальшавіцкая ўлада будзе бараніць тэрыторыю і інтарэсы Расеі, эміграцыя павінна выразна стаць на старану Масквы і ўсім, чым можа, падтрымаць навет „чырвоны“ яе ўрад. Інакш — расейская эміграцыя, казаў ён, толькі як дурная, дапаможа Японіі — паводле японскае пагаворкі — „прадаваць сабачае мяса, прыставіўшы да яго баранаву галаву“ (эміграцыі).

На рубам пастаўленае пытаньне, што ён лічыць горшым для Расеі: ці страту вялікага абшару зямлі на Далёкім Усходзе, ці далейшыя мукі расейскага народу пад ярмом бальшавікоў, Мілюкоў бяз хістаньня адказаў, што—„няма для народу вялікшай бяды, як страта яго тэрыторыі; мукі свае народ сам толькі й можа і павінен спыніць“...

## Жыцьцё Польшчы.

### Марш. Пілсудскі ня хоча быць міністрам?

Санацыйная газэта „Кур. Поранны“ падала сэнсацыйную вестку, быццам марш. Пілсудскі пры ад‘езьдзе сваім у Эгіпет заявіў, што мяніцца пакінуць становішча сябры ўраду—пры перабудове габінэту, якая, як кажуць у палітычных колах у Варшаве, мае адбыцца ў бліжэйшым часе — перад Вялікаднем.

### Новыя законапраекты ў Сойме.

Скончыўшы працу над бюджэтам, Сойм заняўся разглядам даўгога раду ўрадавых законапраектаў, якія прымаюцца з нячуванай шпаркасьцяй. Так, на паседжаньні 7-га сакавіка Сойм прыняў 16 законапраектаў, сярод якіх большасьць — вельмі важныя. Прыкладам — закон аб павялічэньні да трох працэнтаў судовых аплатаў і спагоне іх згары бяз вынятку, ці судовая справа спорная, ці бясспорная; закон аб завастрэньні караў за парушэньне скарбовых правілаў; закон аб новай дзяржаўнай манаполіі—тытунёвай, які выключае гэтую галіну дзяржаўнай гаспадаркі з-пад бюджэтнага кантролю парляманту.

Пададзены ўрадам у Сойм яшчэ шмат законапраектаў, як напр.: аб зьмяншэньні засілкаў (дапамогі) для безработных, аб скарачэньні адпачынкавых адпускоў работнікам, аб скасаваньні так-зван. „англійскай суботы“ (карацейшага дня працы ў суботу).

Гэтыя апошнія праекты ўраду выклікалі вялікае хваляваньне сярод работніцкай апазіцыі—у Сойме і на мясцох. Была распачата шырокая агітацыя сярод работнікаў за аднадзёвую забастоўку пратэсту проці гэтых законаў. Сам міністар працы і соцыяльнай апекі прызнаў, рэфэруючы свае праекты, што законы гэтыя будуць „балюча адчуты“ работнікамі і безработнымі... За тое—іншая група законапраектаў, датычачых паляпшэньня ды пашырэньня соцыяльнай апекі і страхоўкі, павінна, паводле слоў міністра, „прывязаць работніцкую клясу мацней да дзяржавы“...

### Забастоўка пратэсту.

Абвешчаная партыяй ППС на 16 сакавіка аднадзёўная забастоўка дзеля выяўленьня пратэсту проці новых урадавых законаў аб соцыяльным забясьпечаньні працоўных ахапіла пераважна фабрычных і капальняных работнікаў. Чыгункі да забастоўкі не далучыліся. Таксама і мястовыя працаўнікі пастанавілі не баставаць, і толькі ў Львове і некаторых іншых местах баставалі трамваі і аўтабусы.

Не абышлося бяз крывавых ахвяр. У Кракаве ў часе разгону паліцыяй дэманстрантаў, аказаўшых чынны апор, забіты адзін работнік і ранены камянямі некалькі паліцыянтаў. У Жыўцы вялізарная таўпа пачала штурмаваць староства. У выніку стычкі з паліцыяй ранены 3 паліцыянты. Ад залпу паліцыі ў таўпу забіты 1 раб., цяжка ранены 1 і лягчэй 3.

У Вільні баставалі толькі фабрычныя работнікі, частка друкарняў і інш. Жыдоўскія газэты ня вышлі.

### Прамова прэм‘ера Прыстора.

У Сойме—у часе дыскусіі над праектам закону аб новых законадаўчых паўнамоцтвах для выканаўчае ўлады, — прэм‘ер Прыстор сказаў прамову у абарону ўрадавага праекту, у якой паміж іншым заявіў, што крызіс яшчэ ўсьцяж шалее ў Польшчы. Прэм‘ер моцна атакаваў аб‘яднаных прамыслоўцаў розных найпатрэбнейшых прадуктаў, якія, ня гледзячы на спадак цэнаў на збожжа, жыўнасьць, а таму й на работніцкую працу, трымаюць на даўнейшым роўні цэны на свае вырабы.

Мы адзначылі ў свой час вострую прамову з лавак урадавай партыі проці гэтых найбуйнейшых прамыслоўцаў, з якіх шмат хто ўваходзіць аднак-жа ў той-жа ўрадавы блёк. Дык пасьля такое рашучае прамовы самога галавы ўраду трэба спадзявацца гэтак важнага для сялянства зьніжэньня цэнаў на соль, газу, цукер, жалеза, вугальле і інш.

Трэба, аднак-жа, адзначыць, што высокія цэны на некаторыя з гэтых тавараў першай патрэбы падтрымлівае сам урад — сваімі манаполіямі і дзяржаўнымі прадпрыемствамі. Дык урад павінен ня толькі змусіць буйных прамыслоўцаў да зьніжэньня цэнаў, але і даць сам прыклад у гэтым.

### Забастоўка ў Дамброўскім раёне.

Забастоўка ў Дамброўскім вугальным раёне, ахапіўшая каля 10.000 работнікаў спынена пастановай арганізатараў яе, не дасягшы пастаўленае мэты.

## Ці магчыма паразуменьне паміж Літвой і Польшчай?

У зьвязку з вострым конфліктам паміж Нямеччынай і Літвой — з прычыны Клайпеды,—у Літве, як піша польская і літоўская прэса, насьпявае магчымасьць паразуменьня з Польшчай.

У Літве быццам ідзе змаганьне паміж прыхільнікамі Польшчы і немцафіламі. Польская дыплёматыя, ведама-ж, хоча выкарыстаць мамэнт у мэтах збліжэньня з Літвой. У сувязі з гэтым ведамы польскі дзеяч Аляксандар Ледніцкі едзе ў Коўну; едзе ізноў туды і эндэцкі публіцыст Ад. Новачыньскі.

З другога боку — і літоўскі ўрад прыслаў у Вільню самога сэкрэтара ўрадавай партыі Растыкіса, які прабыў тутака даўжэйшы час.

Аднак, польская прэса мала верыць у шчырасьць полёнофільскага курсу літоўскага ўраду, разглядаючы ўсю яго акцыю, як дыплёматычны націск на Нямеччыну — шляхам пагрозы збліжэньня з Польшчай...

**Бацькі!**
**Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!**

## „Скарастрэльная філёлёгія“.

(*Яшчэ у справе граматычных „дэкрэтаў“ д-ра Я. Станкевіча*).

I.

Полеміка, якая ўзгарэлася паміж гр. А. Н. і д-р. Я. Станкевічам на страніцах „Беларускага Звону“ і „Нёмна“, павінна зьвярнуць на сябе ўвагу усяго нашага грамадзянства. Запраўды-ж — „бой“ паміж абыдвума праціўнікамі ідзе не аб нейкую драбніцу: абодва бароняць адзін ад аднаго жывую родную мову, якая зьяўляецца найдаражэйшым скарбам для кожнага народу. Пільнаваць ды ўзбагачываць гэты скарб—у асабліва цяжкіх варунках нашага культурна-нацыянальнага жыцьця—гэта ёсьць першая і галоўная задача нашага асьвечанага грамадзянства. Дык закід у „анархізаваньні нашае мовы“, якая зьяўляецца якраз першым і галоўным шляхам і варункам духовага ўзросту і лучэньня паасобных адзінак у грамадзянства, у нацыю,—закід у сьпіханьні тых, хто прайшоў нашую школу, „у стан паўторнае бязграматнасьці“,—зьяўляецца хіба-ж найбольш цяжкім з усіх тых закідаў, якія можна зрабіць дзеячу, якога спэцыяльнай функцыяй у нашым бедным культурай грамадзянстве мае быць якраз веда нашае мовы і праца над яе ўдасканаленьнем.

Абодвы гэтыя закіды набіраюць тым большай цяжкасьці, што д-р. Я. Станкевіч зьяўляецца на нашым Беларускім Захадзе блізу адзіным спэцыялістам-моваведам. Ён—доктар філёлёгіі Пражскага Унівэрсытэту *). Ён выкладае беларускую мову ў Варшаўскім і Віленскім ун-тах, а таксама ў Віл. Прав. Духоўн. Сэмінарыі. Ён ужо некалькі гадоў выдае—з дапамогі міністэрства асьветы—спэцыяльны беларускі часапіс „Родная мова“, ў якім ён сам—і рэдактар, і адзіны супрацоўнік. У гэтым часапісе ён надрукаваў цэлы рад сваіх працаў, у якіх — з вышыні сваей доктарскай ступені—„зьнішчаючы“ крытыкуе „самога“ Б. Тарашкевіча, пераглядаючы і рэформуючы наскрозь блізу ўсю яго граматыку...

Дык цяжкі закід, кінуты гр. А. Н. у твар так шырака ангажаванага „аўтарытэту“, б‘е, зразумела ж,—праз галаву гр. Станкевіча значна далей за гэту бліжэйшую мэту... З другога боку — выступленьне проці такога, здавалася бы, навукова-азброенага да зубоў спэцыяліста-моваведа з боку гр. А. Н., які спэцыялістам такім не зьяўляецца, павінна было б скончыцца для апошняга поўным і ганебным разгромам... У кожным разе — ў першым сваім баявым выступленьні ў агульнай прэсе перад шырокай аўдыторыяй такі высокі аўтарытэт меў магчымасьць і павінен быў у поўнасьці паказаць усяму нашаму грамадзянству, як і далей—усім тым, пералічаным вышэй, высокім установам, каторыя ўсьцяж абдараюць яго сваім даверам, як спэцыяліста,—сваю бясспрэчную вартасьць моваведа, апраўдаць свае правы і прэтэнсіі на ролю рэформатара, амаль не дыктатара ў галіне беларускае мовы.

У сваім адказе гр-ну А. Н. д-р Я. Станкевіч запраўды-ж нешта паказаў—і паказаў бясспрэчна... Скромны аўтар гэтых радкоў і хоча тутака — паказаць і памагчы разгледзіць добра нашаму грамадзянству, дый мо‘ і самому д-ру філёлёгіі Я. Станкевічу, што іменна паказаў ён, д-р Станкевіч, у сваім адказе... А тады высьветліцца само сабой, ці мае ён якую падставу закідаць гр-ну А. Н. адсутнасьць добрай волі ў яго крытыцы.

———

Мы возьмем тут толькі пару прыкладаў, пару яго „вынаходак“, „досьледаў“, „правілаў“—з яго, як ён кажа, „адзінае граматыкі“ і на іх пакажам запраўдную навуковую вартасьць таго ўмысловага апарату й тых досьледчых мэтадаў, з якімі д-р Станкевіч падыходзіць да працы, а значыць—і запраўдную цэннасьць тых практычных вывадаў—граматычных правілаў, якія ён з такой пэўнасьцю сябе і сваей „навуковасьці“ выдае, як „дэкрэты“—усім да ведама і выкананьня.

„У беларускім языццэ (?),—піша ён на ст. 78 „Нёмана“,—ё двоякія хвормы (?) прыр. ступені—на -шы й на -ейшы. Б. Тарашкевіч на бал. 87 сваей граматыкі выд. 1928 г. прыводзе абедзьве хвормы, але ня кажа—мо‘ ня ведае (!), калі каторая ўжываецца. Але я дасьледаваў і знайшоў (!)*), што хвормы прыр. ст. -ейшы маюць прыкметы, у каторых перад канчаткам ё „н“ з папярэднім сугукам альбо (?) з ў, й (роўны—раўнейшы, дурны—дурнейшы); гэтую-ж хворму маюць прыкметы, у каторых перад канчаткам ё болей двух сугукаў (борзды—барждзейшы, быстры—быстрэйшы); а ўсе іншыя маюць -шы (малады—малодшы, дужшы, бліжшы і г. д.). З гэтым

*) Трэба дадаць, што так гучна называюцца ў Чэха-Славакіі—старым аўстрыяцкім звычаем—усе скончыўшыя унівэрсытэт. У былой Расеі такіх „дактароў“ пладзілася штогодна па некалькі тысячаў. Але з іх ліку найвышэйшую навуковую ступень доктара ў тэй ці іншай галіне (апроч мэдыцыны) здабывалі толькі лічаныя адзінкі, дый часта толькі ў канцы даўгалетняй, прызнанай ужо цэлым сьветам навуковай працы.

*) Курсыў усюды наш.

